Па сканчэнні тэрміну дэпутацкіх паўнамоцтваў, а таксама пры датэрміновым спыненні дэпутацкіх паўнамоцтваў у выпадках, прадугледжаных пунктамі 2, 3, 4 артыкула 95 гэтага Закона, былому дэпутату Вярхоўнага Савета па яго звароту прызначаецца пенсія пры агульным працоўным стажы для мужчын 35 гадоў, для жанчын — 30 гадоў (для былых дэпутатаў-інвалідаў — незалежна ад працоўнага стажу) або пры дасягненні ім пенсіённага ўзросту — у памеры 75 працэнтаў існуючай заработнай платы, устаноўленай для працуючага дэпутата Вярхоўнага Савета адпаведнай або раўназначнай пасады, але не менш чым 75 працэнтаў існуючай заработнай платы дэпутата Вярхоўнага Савета, які працуе на прафесійнай аснове. Пераразлік памеру пенсіі былога дэпутата, а таксама іншых пенсій, прызначаных да абрання яго дэпутатам, адбываецца адначасова са змяненнем службовых акладаў адпаведных або раўназначных пасад працуючых дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Пенсіі, якія прызначаюцца ў адпаведнасці з гэтым Законам, выплачваюцца поўнасцю незалежна ад наяўнасці ў пенсіянера заработку або іншага даходу. За былым дэпутатам захоўваецца медыцынскае і санаторна-курортнае абслугоўванне, устаноўленыя для працуючых дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

За дэпутатам Вярхоўнага Савета захоўваюцца кваліфікацыйныя катэгорыі, разрады, класныя чыны на перыяд работы ў Вярхоўным Савеце. Кваліфікацыйная атэстацыя праводзіцца ў адпаведныя тэрміны з выключэннем з іх перыяду работы ў Вярхоўным Савеце.

Тэрмін паўнамоцтваў дэпутата Вярхоўнага Савета, а таксама час, калі былы дэпутат часова не працаваў у сувязі з немагчымасцю яго працаўладкавання, залічваюцца ў агульны і беспярэпынны стаж работы (службы), стаж работы па спецыяльнасці.

**Артыкул 115.** Дэпутату Вярхоўнага Савета, які ажыццяўляе свае паўнамоцтвы ў Вярхоўным Савеце на прафесійнай аснове, не мае жылога памяшкання або стаіць на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў у Мінску, на перыяд яго паўнамоцтваў бясплатна прадастаўляецца ў Мінску службовае жылое памяшканне для пражывання разам з сям'ёй. За ім захоўваецца права карыстання жылым памяшканнем, якое наймаецца ім па пастаянным месцы жыхарства.

Дэпутатам Вярхоўнага Савета гарантуецца карыстанне льготным крэдытам для будаўніцтва (набыцця) індывідуальнага жылога дома ці кватэры (з правам на дадатковую жылую плошчу ў памеры да 15 квадратных метраў) у выпадку неабходнасці паляпшэння жыллёвых умоў.

Дэпутат Вярхоўнага Савета мае права на пазачарговую ўстаноўку сродкаў сувязі (тэлефон).

Былым дэпутатам Вярхоўнага Савета — інвалідам і сумесна пражываючым з ім членам сям'і прадастаўляецца 50-працэнтная скідка ў аплаце жылой плошчы ў межах норм, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам, плаце за карыстанне тэлефонам (акрамя міжгародніх і міжнародных размоў), камунальнымі паслугамі (ацяпленне, газ, водаправод, электраэнергія), а пражываючым у дамах, што не маюць цэнтральнага ацяплення, - 50-працэнтная скідка з кошту паліва, якое набываецца ў межах норм, устаноўленых для продажу насельніцтву.

**Артыкул 116.** Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь мае права на наступнае дзяржаўнае забеспячэнне і абслугоўванне:

заработную плату ў памеры 95 працэнтаў ад памеру заработнай платы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

афіцыйную рэзідэнцыю ў сталіцы Рэспублікі Беларусь;

службовае жылое памяшканне;

транспарт спецыяльнага прызначэння;

ахову;

расходы на прадстаўнічыя мэты ўнутры краіны;

расходы, звязаныя з наведваннем замежных дзяржаў у адпаведнасці з міжнароднымі нормамі;

спецыяльнае медыцынскае і санаторна-курортнае абслугоўванне;

дзяржаўнае страхаванне;

дзяржаўную дачу.

Па сканчэнні тэрміну паўнамоцтваў або пасля перавыбрання Старшыні Вярхоўнага Савета:

устанаўліваецца пенсія ў памеры 75 працэнтаў заработнай платы Старшыні Вярхоўнага Савета;

прадастаўляецца дзяржаўнае жыллё ў населеным пункце Рэспублікі Беларусь, які ім выбіраецца, са скідкай 50 працэнтаў па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг з правам на дадатковую жылую плошчу ў памеры да 15 квадратных метраў;

захоўваецца спецыяльнае медыцынскае і санаторна-курортнае абслугоўванне яго і членаў яго сям'і;

захоўваецца права на карыстанне службовым аўтамабілем;

замацоўваецца дзяржаўная дача.

Іншыя ўмовы забеспячэння, абслугоўвання і аховы Старшыні Вярхоўнага Савета ўстанаўліваюцца пастановамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Увекавечанне памяці і пахаванне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца за кошт сродкаў дзяржавы.

**Артыкул 117.** Законамі Рэспублікі Беларусь, а таксама пастановамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета дэпутатам Вярхоўнага Савета могуць устанаўлівацца і іншыя дадатковыя правы і гарантыі іх ажыццяўлення.

**Артыкул 118.** Асобы і службовыя асобы, якія перашкаджаюць дэпутату Вярхоўнага Савета ў ажыццяўленні ім сваіх паўнамоцтваў, робяць замах на яго як прадстаўніка народа, на яго жыццё, здароўе, гонар і годнасць, нясуць адказнасць у адпаведнасці з законам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**

**А. ЛУКАШЭНКА.**

21 снежня 1994 г., г. Мінск № 3465 -XII

*Закон лічыцца падпісаным згодна з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

